**Антон Бялевіч**

# ВЯСНА-КРАСНА НА ДВАРЭ...

— Хто нам робіць вясну? —
Разгарэлася спрэчка.
Ад зімовага сну
Падхапілася рэчка:
— Узламала я лёд,
Узняла пенна хвалі,
Пачала веснаход,
Павяла яго ў далі. —
А ў адказ ёй: — Кі-гі! —
Кнігаўкі закрычалі.
— Скрозь чарнелі лугі. —
Мы ж вясну ўжо гукалі.
— Я, ручай, да ракі
Першым бег што ёсць сілы;
— Мы вясну, жаўрукі,
Лёгка ўзнялі на крылах,
На палі, паплавы
Перасейвалі песні.
— Мы вясну, жуpавы,
З поўдня ў край наш прынеслі. —
Дуб стаяў убаку
І шурпаты, і шэры:
— Як пачую „ку-ку!“ —
У вясну я паверу. —
Не на жарт, усур'ёз
Разгарэлася спрэчка.
А вясна-вербалоз
І ракітнік над рэчкай
Апранае ў лісты,
Сцеле рунь, сцеле травы;
Сокам, пахам густым
Поўніць гай кучаравы.

Едзе ў гуле вясна —
Сустракайце, арцелі!..
І баразны яна
Трактарамі нам сцеле.
Ажно горача ёй —
На шырокія гоні
К нам вядзе за сабой
Яна сонца за промні.
Долы ўзняты ад сну
Хай красуецца квецце...
Людзі робяць вясну
І пагоду на свеце!



## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ

# СТАРЫ БАЦЬКА

Даўней было так: як састарэе бацька, то сын завязе яго ў глухую пушчу ды і пакіне там...

Вось аднаго разу павёз сын бацьку ў пушчу. Шкада яму бацькі, — моцна любіў ён яго, але што зробіш? Не павязеш — людзі смяяцца будуць: старых, скажуць, звычаяў не трымаецца. Яшчэ з сяла выганяць...

Едзе ён такі маркотны, аж бацька і кажа яму:

— Няўжо ты, сынку, мяне, старога ды нядужага, аднаго ў пушчы пакінеш?

— Не, бацька, не пакіну. Але для людзей хоць трэба зрабіць гэта. Уночы я прыеду па цябе, забяру і буду трымаць да смерці ў цёмнай каморцы, каб ніхто не бачыў.

Так сын і зрабіў.

Як прыйшла ноч, прывёз ён бацьку з пушчы ды схаваў у цёмнай каморцы.

Здарылася няшчасце: град усё жыта выбіў, і няма чым нават новага пасеяць. Пайшоў сын да бацькі ў цёмную каморку, бядуе:

— Што рабіць? Не пасеем жыта — і налета без хлеба будзем.

Бацька кажа:

— Не, сынку, пакуль я жыў, без хлеба мы не будзем. Слухай мяне. Як ты быў яшчэ малы, тады я гумно ставіў. А ў тым годзе быў вельмі ж добры ўраджай. Дык я немалочаным жытам гумно накрыў. Здзяры страху, абмалаці і будзеш мець насенне.

Сын так і зрабіў. Садраў страху з гумна, абмалаціў і пасеяў увосень жыта.

Суседзі дзівяцца, адкуль ён насенне ўзяў?

А сын маўчыць, бо нельга ж прызнацца, што гэта стары бацька яму дапамог.

Прыйшла зіма. Няма чаго есці. Зноў ідзе сын да бацькі ў цёмную каморку.

— Так і так, — кажа, — давядзецца з голаду паміраць...

— Не, — кажа бацька, — з голаду не памрэм. Слухай, што я табе скажу. Вазьмі рыдлёўку ды пакапайся ў хаце пад лаваю. Там я некалі, як быў яшчэ малады і дужы, закапаў трохі грошай на чорны дзень. Жыццё, сынку, пражыць — не поле перайсці: усё можа здарыцца. Так я думаў і рабіў.

Зарадаваўся сын, выкапаў бацькавы грошы і купіў збожжа.

Сам з сям'ёю хлеб есць ды яшчэ суседзям пазычае. Вось яны і пытаюцца ў яго:

— Скажы ты нам, браце, адкуль ты хлеб бярэш?

Прызнаўся сын:

— Бацька, — кажа, — мяне корміць.

— Як жа так? — дзівяцца суседзі. — Ты ж завёз свайго бацьку ў лес, як і ўсе добрыя сыны!

— Не, — кажа ён, — я не рабіў так, як вы робіце, а пакінуў бацьку пры сабе дажываць веку. Затое, як прыйшла бяда, — бацька мне і дапамог. Старыя людзі больш розум маюць, чым маладыя.

Перасталі з таго часу сыны бацькоў у пушчу вазіць, а пачалі пад старасць шанаваць іх і даглядаць.

**О. Буцень**

# Свавольствы

Міша зачыніў за сабой дзверы і, накруціўшы на руку сетку, пайшоў па лесвіцы. Паверхам ніжэй спыніўся ля суседскіх дзвярэй з таблічкай „Краўчанка“. Паглядзеў уверх, уніз, а потым націснуў званок і, імгненна слізгаючыся па поручнях, спусціўся ўніз. Ён ведаў: праз хвіліну дзверы адчыніць бабулька ў акулярах, агледзіцца вакол — і мяккая ўсмешка згасне на яе твары.

Званіць да Краўчыхі — так усе суседзі называлі бабку — для Мішы стала ўжо звычаем. Праходзячы каля яе дзвярэй, ён не абмінуў выпадку, каб лішні раз патрывожыць бабульку. Нават свайго сябрука Косціка, які жыў паверхам вышэй, прыахвоціў да гэтага.

Купіў у краме хлеба, каўбасы, макарон, не спяшаючыся вярнуўся дадому.

— Вось усё, што ты прасіла, — сказаў ён маці, выкладаючы з сеткі на стол пакупкі.

— А ты ведаеш, Міша, давядзецца табе яшчэ раз сысці, — сказала мама. — Зусім забылася: купі цукру і запалкі. Бабка Наталля прасіла, а я закруцілася і забылася.

— Гэта тая Краўчыха з чатырнаццатай кватэры? Няхай сабе сама купляе, — надзьмуўся Міша.

— Не аднеквайся, ідзі купі і занясі ёй.

Вяртацца з вуліцы Міша не спяшаўся. „Нічога з ёй не здарыцца, пачакае...“ І доўга абіваўся з хлопцамі ў двары.

А калі нарэшце пайшоў да Краўчыхі і спыніўся ля яе дзвярэй, дык доўга разглядаў званок, быццам бачыў яго ўпершыню, і толькі потым націснуў.

— Гэта вось мама вам перадала, — сказаў Міша, чамусьці саромячыся прызнацца, што сам хадзіў у краму для яе.

— Заходзь, — ветліва запрасіла бабулька. — У цябе добрая мама, дзякуй ёй, не забываецца пра мяне.

„Сам ведаю, што добрая“, — хацеў было сказаць Міша, але ў размову не хацеў удавацца. А то яшчэ чаго добрага, прычэпіцца, старыя — яны размоўныя.

Ён хуценька паклаў на стол пачку цукру, дастаў з кармана запалкі і, нешта прамармытаўшы ў адказ на падзяку Краўчыхі, пайшоў.

А вечарам зноў зваліўся на яго клопат: прыйшла Краўчыха і просіць памагчы ёй знайсці фатакартачку яе ўнука.

— За канапу ўпала. Палкай не дастану, а адсунуць няма сілы, — сумна сказала яна.

— Не бядуйце, зараз знойдзем вашага ўнука. Міша, скоч памажы бабцы Наталлі.

— Я яшчэ ўрокаў не зрабіў, — пачаў было аднеквацца Міша.

— Нічога, паспееш.

Каля сваіх дзвярэй Краўчыха доўга капашылася, усё ніяк не магла ўставіць ключ у дзірку замка.

— Дайце я спрабую, — не стрымаў Міша.

— Акуляры пакінула дома, ды і рукі ўжо не тыя, — быццам апраўдваючыся, ціха сказала Краўчыха.

У пакоі яна спынілася каля пакрытай жоўтым пакрывалам канапы.

— Вось тут, за спінку ўпала.

Міша адсунуў столік, што стаяў побач з канапай, потым канапу і дастаў маленькую фатакартачку ў карычневай рамцы. На фатакартачцы быў спрытны хлопец у марской форме з вясёлымі вачыма.

— Гэта калі ён яшчэ ў школе быў. А як скончыў, адразу паплыў вакол свету. Даўно яго не бачыла. Усё чакаю, вось-вось павінен вярнуцца.

— А ў якіх краінах ён быў? — спытаў Міша.

— У многіх. У Турцыі, Індыі, Кітаі, на нейкіх астравах — забылася ўжо, як і называюцца. У Амерыцы. Я табе пісьмы яго пакажу.



Бабулька прынесла чорную бліскучую шкатулку, дастала з яе пачку перавязаных лістаў.

„Маркі! Якіх толькі марак тут няма!“ — маланкай мільганула думка ў Мішы. У яго нават румянец на шчаках выступіў ад так неспадзявана ўбачанага багацця.

— Бабка Наталля, — хвалюючыся спытаў ён. — Можна мне ўзяць марку? Я збіраю маркі...

— Бяры, даражэнькі, бяры. Толькі канверты не папсуй: берагу я пісьмы ўнука. Загінуў мой сын, Пецеў бацька. — Цяжка ўздыхнула бабулька і дадала: — Бяры, якія спадабаюцца.

Доўга прасядзеў у той вечар Міша ў Краўчыхі, асцярожна адклейваў маркі для сваёй калекцыі.

А праз некалькі дзён на лесвіцы сустрэла яго бабка Наталля і кажа:

— Добра, што цябе ўбачыла. Я атрымала пісьмо ад Пеці, але яно такім дробным почыркам напісана, як макам пасеяна. Вочы ў цябе маладзенькія, можа, пачытаеш?

Зайшлі ў пакой.

— Вось пісьмо, — бабка Наталля, насцярожана прыціхла, падала яго Мішу.

Міша выняў з канверта складзены ўдвая лісток, разгарнуў яго і пачаў чытаць. Пётр пісаў, як яны, вяртаючыся на радзіму, трапілі ў шторм, як двое сутак не спалі. Але ўсё абышлося добра, і вось цяпер яны ўжо ў порце.

Бабулька слухала, охала, выцірала хустачкай вочы.

Раптам нехта пазваніў у дзверы. Бабка Наталля падскочыла. Добрая, ласкавая ўсмешка разгладзіла трывожныя маршчынкі на яе твары.

— Можа, гэта ён... — уцешылася бабулька, цяжка ўстаючы з канапы.

Мішка мігам падскочыў і пабег да дзвярэй. Але за дзвярыма ўжо нікога не было. Толькі лёгкі шум крокаў даносіўся з ніжняга паверху.

— Стой! — крыкнуў ён і кінуўся ўніз па сходках.

Вярнуўся Міша, цяжка дыхаючы, з чырвонай правай шчакой, без гузіка на кашулі.

— Хто гэта там быў? — неспакойна і з нецярплівасцю спытала бабка Наталля.

— Гэта... нейкі чалавек памыліў кватэру, — адказаў Міша і сеў дачытваць пісьмо.


ПАГЛЫБЛЯЙ

СВАЕ ВЕДЫ


## СПЯВАЮЧЫ ВОЖЫК

Вожык — шчыры сябар дзяцінства. Усе яго ведаюць, усе яго любяць, усе яго знаходзілі. Слаўны ён сваімі калючкамі і тым, што абавязкова ўцячэ, як бы яго не пільнавалі.

У кожнага любіцеля прыроды быў свой вожык. І ўжо аб ім, здаецца, усё вядома. Любіць малако, ловіць мышэй і жаб, адважна ўступае ў бой са змяёй. У час небяспекі скручваецца ў калючы шар, калі датыкацца — грозна фыркае і паддае іголкамі. А калі не чапаць, дык хутка высуне з калючак свой мокры нос, пашмыргае ім і выставіць вока. Няма нікога — пакоціцца калабочкам.

Ну, а калі ўзяць дадому і прыласкаць, ён хутка і скручвацца перастане. І іголкі яго ў адзін бок лягуць — хоць гладзь, як кацяня. Стане зусім хатнім, такі тупатун-клапатун.

І вось аказваецца, што ў гэтага звярка ёсць таксама свая таямніца.

Расказваў мне адзін ляснік, чалавек назіральны і праўдзівы, быццам бы вожык вясною... спявае! Ды не абы-як, а па-сапраўднаму, як птушка.

Сам я пакуль што не чуў. Але расказы аб гэтым чуў не раз. Абавязкова трэба было б праверыць. Можа, хто з вас чуў вожыкаў спеў? Тады раскажыце нам.

## ВАРОНІНА ВОКА

Баяцца птушкі людскога вока. Я сам праверыў. Варта толькі паглядзець на птушынае гняздо — і скончыцца: птушка яйкі і птушанят забярэ, а гняздо пакіне.

Я фатаграфаваў птушыныя гнёзды. Сёння здыму — заўтра гняздо пустое. Да чаго даходзіла: здымаў птушанят калі старых не было. І ўсё роўна старыя пазнавалі, што я на іхніх птушанят глядзеў! І раніцай ні птушанят у гняздзе, ні яек.

Накрэсліліся тры загадкі. Як птушкі пазнаюць, што я іх гняздо бачыў? Куды пераносяць сваіх птушанят? І, галоўнае, чаму баяцца чалавечага вока?

Але разгадка на тры загадкі атрымалася адна. Людское вока тут ні пры чым. Вінаватым аказалася вароніна вока.

Пакуль я капашыўся ў кустах, наводзячы апарат на гняздо, за мной наглядала варона. Чула варона трывожныя крыкі птушак. І толькі я адыходзіў — яна ляцела ў кусты. Не так сабе ж непакоілася птушачка, калі чалавек капашыўся ў кустах. Вось прытоптаная трава, вось прыгнутыя галінкі, а вось і гняздо.

Пяць птушанят вароне на адзін глыток.

Так часцей за ўсё і бывае. Знойдуць людзі гняздо, наробяць шуму, напалохаюць птушак-бацькоў. А варона сядзіць збоку і чакае.

Небяспечна для птушак вароніна вока. А людское вока вінавата тым, што варону не заўважае.

**М. Сладкоў**

# ЯК ПРАЦАВАЦЬ, ДЫК ПРАЦАВАЦЬ

На школьны падворак адзін за другім высыпалася гаманлівая грамада. Хто з рыдлёўкай, хто з мятлой, хто з граблямі. Падзяліўшыся на групы, разышліся хто куды. Адны ў парк, другія — на магілы савецкіх воінаў, частка засталася на школьнай пляцоўцы. Усе ўзяліся за працу.

Такія дні ў Пачатковай школе ў Орлі здараюцца даволі часта. Мясцовы парк і магілы савецкіх воінаў знаходзяцца пад апекай вучняў і там заўсёды павінен быць парадак.

А на школьным падворку заўсёды знойдзецца праца. Вось цяпер школа вырашыла нанава абгарадзіцца. Адны ўкопвалі слупы, іншыя пасавалі папярэчкі і штыкеціны. Гул малаткоў ішоў па ваколіцы. Яшчэ да канца навучальнага года новы плот даўжынёй 150 метраў будзе памаляваны.

Упарадкавання чакае і спартыўная пляцоўка. Неўзабаве будзе зроблены ўласнымі сіламі і тэнісны корт.

Заробленыя супольнай працай грошы вучні часткова прызначылі на пабудову карабля „Дар моладзі" і на Цэнтр здароўя дзіцяці.

**Міхась Шаховіч, фота аўтара**



**Супольная праца на школьным падворку.**

## АДГАДАНКА



Замалюй каляровым алоўкам палі з кропкай і тады даведаешся, што знайшлі дзеці над рэчкай.




* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 112. Наташа Ганчарова, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

БССР, 220014, г. Мінск-14, вул. Разінская, 81, кв. 1. Лена Сержант, вучаніца 9 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 15. Люда Яфімец, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 79. Іра Аксюціна, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 30. Іна Лагуто, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 36. Вера Міскевіч, вучаніца 5 класа.

* ✲ *

БССР, 222660, г. Стаўбцы, Мінскай вобласці, Жэл.-дар., 21, кв. 3. Уладзімір Корхаў, вучань 3 класа.

* ✲ *

БССР, 211437, Віцебская вобласць, Полацкі раён, Жэрнасекі, д. 29, кв. 8. Рыма Гурэвіч, вучаніца 6 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90, кв. 25. Іна Кучынская, вучаніца 5 класа.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**